З радыёвай хвалі «Вызваленьне»

# Выгубленыя бальшавікамі - 3

Табе, народ мой, згібнуты ў ваковах,
З-пад сэрца песьню гэтую пяю,
І, ускрашаючы мінуўшчыну нанова,
Выказваю цяпершчыну тваю.

Янка Купала

### ЯЗЭП ЛЁСІК

Ідэя нацыянальнага вызваленьня Беларусі была грамадзянскай рэлігіяй Язэпа Лёсіка. Ніякія жыцьцёвыя нягоды ня мелі моцы прымусіць адступіцца ад яе. Пасьвячанасьць народнай справе, нязломнасьць пераконаньняў вызначалі духовы воблік гэтага выдатнага дзеяча адраджэньня Беларусі. А цяжкі шлях, якім давялося йсьці, яшчэ больш гартаваў яго.

З маладых гадоў Лёсік улучаецца ў беларускі вызвольны рух. Ён быў ініцыятарам стварэньня ўсебеларускае арганізацыі настаўнікаў. У 1905 годзе яго засудзілі на пажыцьцёвую ссылку ў Сібір. Вызваленьне прынесла лютаўская рэвалюцыя сямнаццатага году. Неўзабаве Лёсік у Менску. Адразу бярэ месца ў першых шэрагах змагароў нацыянальнае рэвалюцыі. Нязьменна рэдагуе ейны баёвы ворган — газэту «Вольная Беларусь». Ад 18-га да 20-га году займае пасаду старшыні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі.

Калі беларускую дзяржаўнасьць бальшавікі разграмілі, Лёсік цалкам аддаецца навуковай і настаўніцкай працы ў галіне моваведы, ён зьяўляецца адным з настаўнікаў беларускіх навуковых установаў. Працуе ў тэрміналягічнай камісіі, у Інстытуце Беларускае культуры, а пазьней зьяўляецца акадэмікам Беларускае Акадэміі Навук. Чытае лекцыі беларускае мовы, рыхтуе настаўнікаў, піша падручнікі. Культурна-нацыянальная праца прыносіць яму шырокую папулярнасьць, як чалавеку, які аддаваў усе свае сілы й здольнасьці асьвеце свайго паняволенага народу.

На падмогу бацьком, імкненьням якіх ня суджана было ператварыцца ў замацаваную сваю дзяржаўнасьць, ішлі іхныя сыны й дочкі. Нацыянальнаму ўзгадаваньню моладзі Лёсік аддаваў вылучную ўвагу. Пра ейнае прызначэньне, як носьбіткі вызвольных ідэалаў, ён гэтак гаварыў у часе выпуску слухачоў вышэйшых курсаў беларусаведы ў 1922 годзе:

«Вы ўжо ня тыя, што былі, бо пакаштавалі плоду з таго дрэва, што называецца беларускай справай, беларускім адраджэньнем... пазналі вы тайніцы ўваскрошаньня айчыны нашай, Маці-Беларусі... Вашыя сьвечкі запаленыя й вы становіцеся апосталамі беларускае справы. Вы скажаце народу беларускаму... што Беларусь жыла, жыве і жыць будзе й што недалёка ўжо «абяцаная зямля» яе... Але бойцеся, каб не пагасла сьвечка ваша, бо ня раз бура захопіць вас ў дарозе й не адну навальніцу давядзецца перажыць вам у часе свае падарожы. Пільнуйце й бойцеся, каб не пагасла сьвечка замілаваньня вашага да свае многапакутнае Маці-Беларусі. Пільна сачэце за сабой і не забывайцеся падліваць алею ў сьвяцільні вашы, каб было з чым сустрэць яе, Беларусь, калі яна прыйдзе судзіць нас ува ўсёй славе сваёй».

Адраджэньне Беларусі Лёсік называў «прыроднай няўхільнасьцяй». Ён верыў, што народ збудуе сваю дзяржаўнасьць, кажучы Купалавымі словамі, заслужаную «па людзкаму й боскаму праву». Імкненьня да мэты ня могуць выгубіць «фараоны з войскам на калясніцах», у вобразе якіх паўставаў тэрарыстычны бальшавізм, што захапіў Беларусь «I сход пачаўся, — пісаў Лёсік, — і ён ня спыніцца, а вывядзе туды, куды клічуць нас нашыя нацыянальныя прарокі».

У справе адраджэньня значэньне першае ступені надавалася роднай мове, бо яна зьяўляецца магутным сродкам духовага зьеднаньня нацыі ды выяўляе дзяржаўную самастойнасьць народу. Таму Лёсік сьцьвярджаў. «Для нас мова становіць ўсё: нашу палітыку, эканоміку, наш грамадзкі лад жыцьця». Гэтак сьцьвярджалася чужацкасьць бальшавіцкага рэжыму на Беларусі. Адным з доказаў ягонае чужацкасьці зьявілася палітыка пасьлядоўнага вынішчэньня нацыянальных асаблівасьцяў нашае мовы, ператварэньня яе ў расейска-беларускі жаргон. Абарона самабытнасьці мовы была змаганьнем супраць дэнацыяналізацыі народу, змаганьнем за ягоную духовую незалежнасьць.

Да Лёсіка, які ніколі не выракаўся сваіх пераконаньняў, бальшавікі заўсёды ставіліся з зацятай варожасьцяй. Калі ў 22-м годзе выйшла ягоная першая «Практычная граматыка», газэта «Зьвязда», якая выдавалася тады ў расейскай мове, адразу назвала яе контррэвалюцыйнай. Ад самага пачатку савецкага рэжыму Лёсік быў частым вязьнем ЧК. А па выхадзе на волю зноў браўся з запалам за працу нацыянальнага асьветніка.

Лёсік даводзіўся дзядзькам Якубу Коласу, быў ідэйным настаўнікам аўтара «Сымона Музыкі» й «Новай зямлі». Беларускаму адраджэньню яго дало нашае працоўнае сялянства. Улетку трыццатага году, калі бальшавікі пачалі сваю масавую расправу зь беларускім рухам, Лёсіка зноў арыштавалі. У часе яжоўшчыны, ужо на выгнаньні, яго закатавалі ў падвалах НКВД. Закатавалі за тое, што да самаахвярнасьці быў аддадзеным свайму народу. А каб яго зьняславіць, — яго як і іншых, — абвесьцілі ворагам народу, буржуазным нацыяналістым. Ягоныя падручнікі, на якіх узгадоўваліся сотні тысячаў нашае моладзі, даўна зьнішчаныя. Нацыянальны дзеяч-настаўнік стаўся ахвяраю тае навальніцы, ня згінацца перад якой нямоўкна клікаў беларускае грамадзтва.

Аглядальнік

# Змаганьне за Нямеччыну й Бэрлін: галоўныя дакумэнты

**Ад Рэдакцыі:** Справа Бэрліну стаіць у цэнтры сьвету пасьля апошняга манэўру Хрушчова. Ведамы амэрыканскі экспэрт у справах падкамуністычнага Ўсходу, супрацоўнік газэты «Нью Ёрк Таймс», Гары Шварц, зьмясьціў у менаванай газэце генэзу «нямецкага пытаньня« ў пасьляваенны пэрыяд. Ніжэй зьмяшчаем пераклад ягонага артыкулу.

☆

Нядаўная прапанова Савецкага Саюзу драстычна зьмяніць цяперашні статут Бэрліну, ды ягоная пагроза аднабаковае акцыі ў гэтай справе за шэсьць месяцаў прымусіла дыпляматаў прастудыяваць легальныя базы цяперашняга палажэньня Бэрліну.

Гэты пэрыяд паказаў, што цяперашняе палажэньне Бэрліну зьяўляецца вынікам пагадненьняў паміж Савецкім Саюзам і заходнімі саюзьнікамі — пагадненьняў, дасягнутых у два розныя пэрыяды.

Першы пэрыяд — падчас і адразу пасьля другое сусьветнае вайны — быў край, калі Захад разглядаў Нямеччыну перш за ўсё як ворага, якога ня трэба дапусьціць да мілітарнага адраджэньня навечныя часы. У той час Захад уважаў Савецкі Саюз за ляяльнага хаўрусьніка, і спадзяваўся на ягонае супрацоўніцтва й прыязьнь на неазначаны час.

Другі, зусім розны пэрыяд, прыйшоў у сярэдзіне 1949 году, калі былі дасягнутыя пагадненьні, паводля якіх Савецкі Саюз згадзіўся спыніць ягоную няўдалую блякаду Заходняга Бэрліну, якая была сарваная наладжаным заходнімі краінамі паветраным мастом у 1948-49 г. г.

### Правы заваёўнікаў

У васноўным, пазыцыя Задзіночаных Штатаў у Бэрліне вынікае з правоў, атрыманых шляхам перамогі нацыстоўскае Нямеччыны. Побач зь іншымі пераможнымі краінамі. Задзіночаныя Штаты згадзіліся на вайсковую акупацыю Нямеччыны, уключна із супольнай акупацыяй Бэрліну. Калі гітлераўскі рэжым быў зьнішчаны, ніякага нямецкага ўраду ня было. Таму пераможцы зарганізавалі вайсковы рэжым, які, як прадбачвалася мусіў існаваць датуль, пакуль ня будзе падпісаная мірная ўмова з новым нямецкім урадам, які-б задавольваў пераможцаў. Існуючая супольная акупацыя Бэрліну — гэта апошняя, у межах Нямеччыны, рэштка гэтае дамоўленасьці. Акупацыя гэтая трывае далей таму, што дасюль няма мірнае ўмовы зь Нямеччынай і няма адзінага ўраду для цэлае Нямеччыны — ураду, які задавольваў-бы ўсіх калішніх хаўрусьнікаў, што выйгралі другую сусьветную вайну.

Ніжэй падаецца храналягічны пералік перамоваў і пагадненьняў у справе Бэрліну й зьвязаных зь ім пытаньняў, вынікам якіх ёсьць палажэньне, што Савецкі Саюз пагражае цяпер разбурыць.

*Кастрычнік 1943 году — канфэрэнцыя міністраў замежных справаў у Маскве*

На гэтай канфэрэнцыі міністры замежных справаў Задзіночаных Штатаў, Вялікабрытаніі й Савецкага Саюзу згадзіліся ў прынцыпе на супольную адказнасьць за Нямеччыну й на супольную акупацыю Нямеччыны. Яны заснавалі Эўрапэйскую Кансультацыйную Камісію, дзеля дапамогі ў вызначэньні супольнае палітыкі ў дачыненьні да пасьляваеннае Нямеччыны, а таксама й іншых пытаньняў.

### Акупацыйныя Зоны

Эўрапэйская Кансультацыйная Камісія: гэтая інстытуцыя, у якую ўваходзілі памерлы Джон І. Вайнэнт ад Задзіночаных Штатаў, сэр Вільям Странг ад Вялікабрытаніі й Фёдар Т. Гусеў ад Савецкага Саюзу, працавала ад студзеня 1944 году да жніўня 1945 году. Пад ліпень 1944 году была дасягнутая поўная згода ў двух пунктах: супольная акупацыя Бэрліну й вызначэньне савецкае акупацыйнае зоны, якая абыймае Ўсходнюю Нямеччыну аж да цяперашняе заходняе мяжы камуністычнае Ўсходняе Нямеччыны.

Істотнае пагадненьне, дасягнутае ў Эўрапэйскай Кансультацыйнай Камісіі, ды якое нядаўна было адкліканае Савецкім Саюзам, было падпісанае 12 верасьня 1944 году. Яно вызначала акупацыйныя зоны для Задзіночаных Штатаў, Вялікабрытаніі й Савецкага Саюзу ў Нямеччыне ў цэлым і ў Бэрліне як асобнай адзінцы, пастанаўляючы таксама аб сумеснай адміністрацыі Бэрліну.

Акрамя таго, 14 лістапада 1944 году Эўрапэйская Кансультацыйная Камісія дасягнула пагадненьня аб стварэньні Задзіночанымі Штатамі, Вялікабрытаніяй і Савецкім Саюзам Саюзнае Кантрольнае Рады, як найвышэйшай улады для Нямеччыны ў цэлым, а таксама аб тым, што кажны галоўнакамандуючы зьяўляецца найвышэйшай уладай, ад імя свайго ўраду, у акупацыйнай зоне кажнае краіны.

Ня было ніякага пагадненьня ў Эўрапэйскай Кансультацыйнай Камісіі, якое-б гарантавала вольны доступ для заходніх краінаў да Бэрліну.

*Ялтанская канфэрэнцыя ў лютым 1945 г.:*

На гэтай канфэрэнцыі, кіраўнікі ўрадаў Задзіночаных Штатаў, Вялікабры-

(Заканчэньне на 3-ай бачыне)

# Тэзісы Хрушчова й сель. гасп.

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

Згодна тэзісаў саўгасы павінны быць прыкладнымі сацыялістычнымі прадпрыемствамі. Яны павінны будуць даваць прыклад калгасам, як найлепш выкарыстоўваць зямлю й тэхніку, дзеля атрыманьня найбольшае колькасьці сельскагаспадарчых прадуктаў пры найменшых затратах сяродкаў і працы.

Тым часам па ўсім Савецкім Саюзе саўгасы далёка не зьяўляюцца прыкладнымі гаспадаркамі ды вельмі часта вядуць гаспадарку горш, чымся калгасы. Так, прыкладам, у суседняй Летуве палова саўгасаў працуе нерэнтабельна. У іх дрэнная арганізацыя працы, безгаспадарчасьць, перавыдаткаваньне кармоў («Советская Літва», 9. 4. 1958). У Казахскай ССР недабрана каля 100 мільёнаў пудоў збожжа ў саўгасах у сувязі з дрэннай уборкай ураджаю («Сельское хозяйство», 8. 7. 1957 г.). У Смаленскай вобласьці адзін толькі саўгас «Усходзкі» за 1957 г. даў убытку на мільён 703 тысячы рублёў. У 1956 годзе із 113 саўгасаў Беларускай ССР 79 было дэфіцытных.

Зь пералічаных прыкладаў мы бачым, што і ў наступаючай сямігодцы шмат саўгасаў ня будзе ніякім прыкладам для калгасаў. Як першыя так і апошнія працуюць дрэнна, а прычына гэтага ляжыць у самой гэтак званай сацыялістычнай сыстэме савецкага земляробства, якая пазбаўлена стымулу зацікаўленасьці ў палепшаньні гаспадаркі, у падняцьці прадуктыўнасьці працы.

Пераход зь пяцігадовых плянаў на сямігадовы — ня выцягне з крызісу заняпалую сельскую гаспадарку Савецкага Саюзу.

В. Б

**Мікола Кулаковіч** 3)

# Мастацтва БССР на парозе пятага дзесяцігодзьдзя

Спынімся сьпярша на пытаньні памешканьня й разьмяшчэньня мастацкіх установаў і арганізацыяў. На юбілейнае сьвята былі ўскладзены адзіныя надзеі разьвязаць як-небудзь такую вострую і, можна сказаць, крытычную праблему ў рэспубліцы. Было заплянавана здаць у эксплятацыю: будынак студыі «Беларусьфільм», будынак кансэрваторыі, будынак для мастацкай галярэі, будынак для тэатру імя Я. Коласа (Віцебск), памешканьне для тэатральна-мастацкага Інстытуту, ды разьвязаць пытаньне з памешканьнем для Філярмоніі, прынамсі набыць канцэртную залю й рэпэтыцыйнае памешканьне.

Усё гэта ўжо гадамі стаяла на чарзе. З гэтага сьпісу цяпер выкананы толькі будынак Беларускай кансэрваторыі й будынак для Дзяржаўнага Мастацкага Музэю БССР (куды ўвайшла й мастацкая галярэя).

Рэшта засталася толькі на пляне. Асабліва немагчымае становішча «Беларусьфільму»: адсутнасьць адмысловага, тэхнічна абсталяванага памешканьня вяжа й зводзіць на нішто ягоную дзейнасьць. [44]

Пытаньне аб студыі «Беларусьфільм» падымаецца на зьездах партыі БССР, Вярхоўнага Савету, трапляе ў самыя вышэйшыя інстанцыі, аднак далей заплянаваньня й абяцанак, пачынаючы ад 1925 году, справа ня йдзе.

Амаль што немагчымыя ўмовы для працы маюць Тэатральна-мастацкі Інстытут, Балетнае вучылішча, Філярмонія зь яе вялікімі часткамі (аркестры, сымфанічны й народны, капэля й народны хор, салістыя) і Эстрада (перасоўны тэатр, канцэртныя брыгады), што ўсе разам цесьняцца ў будынку тэатру опэры й балету, перашкаджаючы й апошняму весьці сваю працу. На ўсіх кампазытарскіх зьездах і грамадзкіх сходах музычныя дзеячы ад пасьляваеннага часу із зразумелай нэрвовасьцяй заклікаюць кіруючыя арганізацыі пабудаваць хаця-б канцэртную залю ў Менску, таму што ні кампазытары, ні Філярмонія ня могуць весьці безь яе патрэбнай працы. [45]

Як ня дзіўна, але навет у сталіцы БССР няма такога кутка, дзе-б маглі сустракацца працаўнікі мастацтва дзеля абмеркаваньня творчых пытаньняў, дзеля сувязі й адпачынку. Шматгадовыя патрабаваньні, просьбы й заклікі аб адкрыцьці ў Менску Дому працаўнікоў мастацтваў застаюцца толькі славамі ў паветры.

Правінцыяльныя тэатры, мастацкія ўстановы й навучальныя арганізацыі, як правіла, цесьняцца ў малых, няпрыстасаваных і неабсталяваных тэхнічна памешканьнях, дзе няма падсобных майстэрняў, габінэтаў, бібліятэк, што стварае вялікія, часта непераможныя цяжкасьці дзеля пастаноўкі спэктакляў, падрыхтоўчай працы, нармальнага навучаньня й г. д. Фактычна ў БССР толькі адзін тэатр опэры й балету можа быць больш-менш задавальняючым будынкам; апрача яго ў рэспубліцы няма добрых ані тэатральных ані канцэртных памешканьняў.

**Арганізацыйны бок** дзейнасьці мастацкіх установаў, ці інакш, «арганізацыя творчага працэсу» (паводля савецкай тэрміналёгіі) ня можа ня зьдзіўляць сваім бязладзьдзем і хаатычнасьцяй. Калі ўзяць, прыкладам, тэатр опэры й балету, які знаходзіцца ў найбольш спрыяльных умовах і карыстаецца пераважнаю ўвагаю кіраўніцтва, дык тут, як заяўляе Міністэрства культуры:

> «Дырэктар тэатру... галоўны рэжысэр... галоўны дырыгент... працуюць нязладжана. Дысцыпліна ў тэатры знаходзіцца на нізкім узроўні». [46]

Асабліва дрэнна стаіць справа гэтак званай, арганізацыі творчага працэсу:

> «Тэатр выпускае новую прэм'еру пасьля вялікіх перапынкаў... 3-4 месяцы... У той-жа час група салістых тэатру сыстэматычна не загружана й выступае 1-2 разы ў месяц. [47]

Опэрны тэатр зусім ня вынятак. Тое-ж самае наглядаецца і ў іншых мастацкіх асяродках.

Недаравальна стаіць справа з тымі ўстановамі й арганізацыямі, што мусяць эфэктоўна дапамагаць творчай працы. Яны або дрэнна працуюць, або зусім адсутнічаюць. Гэтак, прыкладам, балючае мейсца — мастацкая выдавецкая дзейнасьць. Адмысловага мастацкага выдавецтва, з тэхнічна датарнаванай базай, няма, а Дзяржаўнае Выдавецтва БССР выконвае патрабаваньні мастацкіх адзінак ў нязвычайна абмежаванай колькасьці і ў вельмі нізкай якасьці. Музычныя выданьні робяцца ручным спосабам, маюць многа памылак, недакладнасьцяў, лістаж іх вельмі малы й пакідае за бортам паважныя, капітальныя рэчы, абмяжоўваючы сябе песеннай масавай літаратурай. Выданьне выяўленчых працаў — нязначнае, працэс адліцьця ў формы скульптураў — цяжкі й марудны, палітычны плякат выходзіць зь вялікім напружаньнем. Рэспубліканскі друк канстатуе:

> «Нажаль, выяўленчай прадукцыі ў нас выдаецца ўсё яшчэ недапушчальна мала, яна выпускаецца марудна, зь вялікімі дэфэктамі... Тое, што здадзена ў вытворчасьць, месяцамі ляжыць у друкарні бяз руху...[48]»

Здавалася-б, што пры такой нязначнай колькасьці мастацкіх выданьняў, яны павінны былі-б хутка распаўсюджвацца сярод жыхарства. Аднак, атрымоўваецца наадварот — выданьні ляжаць на складах гандлёвай сеткі БССР. Характарызуючы дзейнасьць гэтай апошняй, галоўны рэдактар выдавецтва БССР гаворыць:

> «За такое становішча спраў нясуць адказнасьць і кнігагандлюючыя арганізацыі рэспублікі. З году ў год яны настойліва дамагаюцца скарачэньня тыражоў, паўтараючы адзін і той-жа матыў, быццам беларуская кніга не карыстаецца дастатковым попытам. Такая пазыцыя кнігагандлюючых арганізацый вынікае з таго, што яны ня ведаюць і ня вывучаюць попыт..., ня ведаюць запатрабаваньняў чытача»[49].

Паводля словаў музыказнаўцаў:

> «Ува ўнівэрмагу (Менскім — М. К.) маецца паліца беларускай музыкі, але мы не знайшлі амаль ніводнай пліткі беларускай музыкі на гэтай паліцы»[50].

**Бытавы бок** творчай і выканаўчай дзейнасьці знаходзіцца таксама ў такім дрэнным становішчы, што прыймае часта карыкатурныя формы, становіць вялікія цяжкасьці для працы. Некаторыя газэты зусім правільна заўважаюць, што няўдачы пастановак — «гэта вынік разьяднанасьці тэатру, Саюзу кампазытараў і Саюзу пісьменьнікаў, зь якой зараз трэба рашуча пакончыць»[51].

**Разладжанасьць** паміж кіруючымі ворганамі, кіраўнікамі тэатраў і ўстаноў, паміж паасобнымі працаўнікамі кідаецца адразу-ж у вочы. Аднэй з мастацкіх адзінак, дзе найбольш выпукла выступаюць адмоўныя рысы бытавога йснаваньня — гэта Саюз кампазытараў БССР, дзе ад пасьляваенных год яшчэ «ня створана спрыяючая атмасфэра»[52].

Дачыненьні кампазытараў з крытыкамі такія, што «пярэчыць ім (крытыкам — М. К.) бывае небясьпечна, бо можна атрымаць няпрыемнасьць»[53]. Сярод крытыкаў шырока распаўсюджана бяспрынцыповасьць, тэндэнцыйныя й каньюнктурныя падыходы да творчасьці»[54]. Самі кампазытары таксама баяцца абмяркоўваць творчасьць сваіх калегаў, бо «неахвота псаваць... адносіны з аўтарамі новага твору».

«Літаратура і мастацтва» папярэджвае кампазытараў, што гэтай гульнёй у маўчанку яны «робяць дрэнную паслугу»[55]. Інтрыгі, зайздрасьць, адсутнасьць шчырых, таварыскіх дачыненьняў разьядаюць ці толькі Саюз кампазытараў БССР, усё гэта сталыя спадарожнікі савецкага жыцьця.

Аднэй з праблемаў ёсьць фінансавы плян. «Зарплату атрымліваеш? Ня выканаеш пляну — зь кішэні даложыш. Зразумеў?»[56]. Гэтая тэлефонная размова між загадчыкам раённага аддзелу культуры й кінамэханікам тычыцца ўсіх дырэктараў і загадчыкаў мастацкіх адзінак. Перад кажным зь іх стаіць небясьпека: нявыкананьне фінансавага пляну. Партыйна-савецкае кіраўніцтва, хоць і пераконвае, што ў савецкай практыцы ідэйна-вытрыманы твор адначасна зьяўляецца й найлепшым сяродкам дзеля прыцягненьня публікі, а гэтым самым і выкананьня фінансавага пляну, аднак на справе гэта

# Змаганьне за Нямеччыну...

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

таніі й Савецкага Саюзу ратыфікавалі два пагадненьні Эўрапэйскай Кансультацыйнай Камісіі, прыгаданыя вышэй. Яны таксама прыйшлі да высnаву, што Фрацыя павінна таксама атрымаць сваю акупацыйную зону Нямеччыны, ды што Французы павінны ўзяць удзел у Саюзнай Кантрольнай Радзе. Роля Французаў была дакладней акрэсьленая ў пагадненьні 4-х дзяржаваў, падпісаным 4 травеня 1945 году.

*Капітуляцыя Нямеччыны, травень 1945 году:*

У дзень перамогі, ангельскае й амэрыканскае войска акупавала Нямеччыну аж да Эльбы — яны былі куды далей на Ўсход, чымся было прадбачана ў пагадненьні ў справе распадзелу акупацыйных зонаў, выпрацаванага Кансультацыйнай Камісіяй. З другога боку, у руках савецкай арміі быў поўнасьцяй Бэрлін. Было ясна, што Савецкі Саюз не аддасьць часткі Бэрліну, калі войска заходніх краінаў не адступіць з занятых ім багатых раёнаў, якія яны занялі, але якія былі — паводля ранейшых пагадненьняў — аддадзеныя Маскве.

*Бэрлінскае пагадненьне 5 чырвеня 1945 году:*

Гэтае пагадненьне, падпісанае, ангельскім, амэрыканскім, французскім і савецкім галоўнакамандуючым ў Нямеччыне, абвяшчала, што чатыры ўрады гэтых краінаў «гэтым пераймаюць уладу ў дачыненьні да Нямеччыны». Галоўнакамандуючыя апублікавалі асьветчаньне, у якім прыймалася форма вайсковага кіраўніцтва й акупацыі Нямеччыны ды Бэрліну на падставе пагадненьня Эўрапэйскае Кансультацыйнае Камісіі ў верасьні й лістападзе 1944 году, а таксама ўдзел Французаў, прыняты на Ялтанскай Канфэрэнцыі.

*Потсдамскае пагадненьне ў жнівені 1945 году:*

Яно пацьвярджала пагадненьне зь 5 чырвеня аб акупацыйных зонах і Кантрольнай Камісіі, але не згадвала аб Бэрліне. Яно зьмяшчала сьпіс акупацыйных аб'ектаў, прадбачаных для рэпарацыяў, абяцала падтрымку захопу Савецкім Саюзам Паўночна-Усходняе Прусіі (цяпер Калінінградзкае вобласьці Савецкага Саюзу), і, «да канчальнага вырашэньня аб заходніх межах Польшчы», аддаць «пад адміністрацыю польскае дзяржавы» раёны Нямеччыны на ўсход ад рэкаў Одэр-Ніса.

**Паветраныя шляхі**

*Пагадненьне аб паветраным калідоры:*

30 лістапада 1945 году, Саюзная Кантрольная Рада прыйшла да пагадненьня, што павінны быць устаноўленыя тры паветраныя калідоры дзеля паветранага спалучэньня паміж Бэрлінам і Заходняй Нямеччынай, ды што палёты ў гэтых калідорах могуць адбывацца без папярэджаньня.

*Пагадненьне Джэсапа-Маліка ў травені 1949 году:*

Савецкая блякада Бэрліну пачалася ў чырвені 1948 году, але яна не ўдалася дзякуючы бэрлінскаму паветранаму масту. На пачатку 1949 году савецкі ўрад пастанавіў спыніць блякаду, і пастановы ў гэтым кірунку былі прынятыя падчас сакрэтных перамоваў у Задзіночаных Нацыях у Нью Ёрку паміж д-рам Піліпам Ц. Джэсапам (ЗША) і Якубам Малікам (СССР). Узамен за спыненьне блякады Бэрліну, Захад згадзіўся спыніць адплатную контр-блякаду ў дачыненьні да Ўсходняе Нямеччыны. Абодва бакі згадзіліся склікаць нараду міністраў замежных справаў у Парыжы 23 травеня 1949 году.

*Пагадненьне міністраў замежных справаў, чырвень 1949 году:*

Нарада замежных міністраў зацьвердзіла пагадненьне **Маліка-Джэсапа.** Яна таксама прыйшла да пагадненьня, што дзеля аблегчаньня транспарту й спалучэньня паміж рознымі акупацыйнымі зонамі, а таксама паміж зонамі й Бэрлінам, «акупацыйныя ўлады, кажная ў сваёй зоне, будуць забавязаныя прыняць адпаведныя мерапрыемствы дзеля забясьпечаньня нармальнага функцыянаваньня й выкарыстоўваньня чыгуначнага, воднага й дарожнага транспарту».

**Сувэрэнная Нямеччына**

*Канвэнцыя з 23 кастрычніка 1954 году:*

Гэты дакумэнт, падпісаны Задзіночанымі Штатамі, Вялікабрытаніяй і Францыяй з аднаго боку, і Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікай з другога, пакідае за першымі трыма краінамі «правы й адказнасьці... у дачыненьні да Бэрліну», з тым, што яны нясуць гэтыя забавязаньні й пасьля абвешчаньня Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі, як сувэрэннае дзяржавы.

*Усходня-Нямецкае пагадненьне 20 верасьня 1955 году:*

Гэтае пагадненьне, якім Савецкі Саюз прызнаў «сувэрэннасьць» «Нямецкае Дэмакратычнае Рэспублікі», пакідала савецкай арміі права кантролю ангельскага, французскага й амэрыканскага пэрсаналу й транспарту паміж Заходнім Бэрлінам і Заходняй Нямеччынай.

Вось у гэтым стане пытаньне падзеленага Бэрліну заставалася да апошняга манэўру Хрушчова.

У межах Нямеччыны, толькі статус Бэрліну застаецца такім, якім ён быў прадугледжаны ў 1945 годзе, але таксама застаецца без выразнае легальнае санкцыі польскае адміністраваньне ранейшае нямецкае тэрыторыі й савецкае панаваньне над паўночнай часткай Усходняе Прусіі.

**Гары Шварц**

# Дзесяцігодзьдзе Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе

Сёлета мінае дзесяць год ад часу паўстаньня першай нацыянальнай беларускай арганізацыі пасьля апошняе вайны на Паўночна-Амэрыканскім кантынэнце.

28 лістапада 1948 году на Робінзон вуліцы ў Таронце, на правватным памешканьні аднаго зь Беларусаў, сабралася чатырнаццаць Беларусаў — новапрыехаўшых эмігрантаў у Канаду. У бальшыні сваей былі гэта вэтэраны, трапіўшыя сюды зь Італіі і з Ангельшчыны ў ліку былых жаўнераў Другога Корпусу Андэрса. Яны толькі што паканчалі кантракты на фэрмах і сабраўшыся ў горад, адразу пачалі рупіцца аб нацыянальна-грамадзкай працы сярод мясцовых суродзічаў. Вынікам было ўтварэньне Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе.

Падрыхтоўчая праца да ўтварэньня арганізацыі пачалася куды раней. Калі восеньняй 1946 году й вясной наступнага году зьявіліся ў Канадзе першыя пасьляваенныя беларускія эмігранты, зьвязаныя кантрактамі працы, раськіданыя па цэлай вялізарнай Канадзе, яны найчасьцей ня ведалі адзін аб другім, ня мелі сувязяў зь беларускімі арганізацыямі ў Эўропе, маглі лёгка загубіцца сярод чужых. Трэба быў нейкі лучнік, нейкі цэнтр, празь які маглі-б неяк скантактавацца, паразумецца, а пасьля ўжо й гаварыць ды плянаваць аб супольнай працы. А патрэба такой супольнай грамадзка-нацыянальнай працы была вялізарная. Першае — трэба было захаваць і зарганізаваць усё жывое й творчае беларускае, што думала нацыянальнымі й вызвольнымі ідэямі. Другое — новапрыехаўшыя, разгледзеўшыся навокал, хутка ўбачылі, што на месцы старую перадваенную заработную беларускую эміграцыю разьядала камуністычная зараза. Трэцяе — Беларусь, паняволеная Маскоўшчынай, не магла гаварыць аб сваіх імкненьнях да вызваленьня, абстойваць свае правы на міжнародным форуме. Голасам ейным мела быць вольная беларуская эміграцыя.

У лютым 1948 годзе ў Ашаве зьяўляецца на сьвет першы беларускі ў Амэрыцы часапіс, друкаваны на ратататары — «Беларускі Эмігрант».

Самым першым сваім заданьнем ён і ставіць зьвязаць рассыпаных у Канадзе суродзічаў, стацца іхным цэнтрам сувязі, інфармаваць аб падзеях зь беларускага жыцьця ў іншых краінах па-за паняволенай бацькаўшчынай, ды, эвэнтуальна, спрычыніцца да паўстаньня мясцовай нацыянальнай беларускай арганізацыі. Выдавец і рэдактар, працуючы па 15 гадзін на дзень у канадыйскага фармэра, не шкадуе энэргіі на добра пачатую справу й хутка відаць вынікі працы. Плывуць лісты зь лясоў ад лесарубаў, з фармаў і з капальняў. Рассыпаныя суродзічы знаходзяцца, абменьваюцца думкамі, радзяць аб будучыні. Паўстае думка, што патрэбны нейкі цэнтр, нейкі горад, дзе пасьля сканчэньня кантрактаў усе жадаючыя могуць зьехацца, знайсьці працу, пачаць супольна працаваць для дабра свайго й паняволенай бацькаўшчыны. На гэткі цэнтр зыбіраецца вялікі індустрыяльны горад — Таронта, куды сьпяшаць Беларусы з усіх канцоў Канады. У выніку й паўстае Згуртаваньне Беларусаў у Канадзе.

Выбраная Часовая Галоўная ўправа апрацоўвае статут арганізацыі, аснованы на шырокіх дэмакратычных асновах, пачынае ўрастаць у мясцовую глебу, робіць кантакты з шырокім колам суродзічаў, што апынуліся на месцы, кантакты з чужымі антыбальшавіцкімі арганізацыямі й агульна вядзе працу на двух фронтах — нутрана-арганізацыйным і вонкава-палітычным. Гэты другі фронт — гэта вайна супраць мясцовых агентаў Крамля ўва ўсіх відах і формах ды прапагаваньне ідэі вызваленьня Беларусі і ўтварэньня незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Даводзіцца ламаць лёд на новай канадыйскай глебе. Канадыйскія ўрадавыя дзейнікі мала паінфармаваны, або дрэнна паінфармаваны пра імкненьні беларускага народу. На кажным кроку трэба выясьняць хто мы ёсьць, чаго мы хочам і да чаго імкнецца наш паняволены народ.

Часовая ўправа выдае заклік да ўсіх Беларусаў у Канадзе, каб уступалі ў сябры ЗБК. Побач з гэтым вядзе ўсьведамляльную працу сярод маласьведамых суродзічаў. Найменш удаецца зрабіць у дзялянцы харытатыўнай. Беларусы з Эўропы, пераважна зь нямецкіх лягераў ДП, пачуўшы аб нацыянальнай арганізацыі Беларусаў у Канадзе, сьпяшаць з просьбамі аб дапамозе грашовай ды аб помачы ў эміграцыі за акіян. Сябры ЗБК, самі бедныя, робяць што могуць, сьцідаюцца часамі даслоўна па пару даляраў, каб не адмовіць найбольш цярпячым, — хворым і студэнтам. У помачы некаму прыехаць у Канаду амаль нічога ня могуць зрабіць з прычыны ўмоваў і правоў адносна іміграцыі ў Канаду, якія тады йснавалі. Але затое сьпяшаць з інфармацыямі, дзеляцца добрым словам.

28 травеня 1949 г. ў Таронце адбываецца Першы Агульны Зьезд ЗБК. Ён прымае першы статут арганізацыі, выбірае сталыя кіраўнічыя органы, устанаўляе бюджэт і плян працы. Ад гэтага часу арганізацыйная праца пачынае плысьці вызначаным і агульна-плянаваным рэчышчам. Дзеля таго, што бяз собскага памешканьня арганізацыйная праца амаль немагчымая, пастаноўлена распачаць зборкі ахвяраў на куплю Беларускага Дому. Увосень 1949 году «Беларускі Эмігрант» пачынае выдавацца друкам як газэта і выходзіць рэгулярна кажны месяц, стаўшыся органам Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе. Ягоны рэгулярны выхад запаўняе ў пэўнай меры недахоп беларускае прэсы на эміграцыі, спрычыненай грашовай рэформай у Нямеччыне й вельмі цяжкімі матар'яльнымі абставінамі нашых суродзічаў у Эўропе.

Пачынаюць ажыўляцца й іншыя беларускія асяродкі. Паўстае аддзел ЗБК ў Гамільтоне, пачынае дзеяць і беларускі асяродак у Монтрэалі. У Таронта закладаецца мясцовы аддзел ЗБК. Паміма добрае волі й вялікае ахвоты перадавых ініцыятыўна-творчых адзінак, праца ЗБК ідзе цяжка й трудна. На гэта складаюцца дзьве асноўныя прычыны: 1) львіную долю часу кіраўнічых органаў ЗБК забірае змаганьне супраць крывадушнай бальшавіцкай прапаганды, якая ў той час з дынамічнай сілай выражаецца ў сталінскай г. зв. кампаніі за мір; 2) палітычнае змаганьне ўнутры самой беларускай эміграцыі,

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

адбываецца зусім наадварот. Ідэйна-вытрыманы спэктакль, тэндэнцыйны, партыйны, як правіла праходзіць пры пустой залі, а вось пазбаўлены гэтакай «вытрыманасьці» — нясе багатую касу, і чым далей ад «ідэйнасьці», тым большы збор. Увесь час ідзе гэты разрыў паміж **клясавым** і **касавым** спэктаклем, канцэртам, кінафільмам. Дырэктары й загадчыкі баяцца фінансавай адказнасьці ў няменшай ступені, чымся ідэалягічнай і таму змушаны даваць таксама й лёгкі, прывабны рэпэртуар, які-б адводзіў глядача ад шэрасьці й аднатоннасьці савецкага жыцьця. У БССР як і ў іншых рэспубліках гэта сталася частаю й выпрабаванаю зьяваю.

Разьбежнасьці паміж клясавай і касавай п'есай ведамы даўно ўсяму кіраўніцтву, але ніхто зь іх не адважыцца прызнацца ў гэтым, а асабліва ў тым, што падсавецкі глядач тут **выказвае** сваеасаблівы, маўклівы, але наважаны **пратэст** супраць надаеўшай яму тэндэнцыі й прапаганды, — ён проста ня йдзе ў тэатр, ці на канцэрт, калі там паказваюць занадта ідэйна-вытрыманы рэпэртуар, асабліва з тэматыкі сацыялістычнага будаўніцтва.

### 6. Уступ у «пятае дзесяцігодзьдзе».

Вышэй мы бачылі, як, навет, у дні вялікага савецкага юбілейнага сьвята, у рэспубліканскім друку чутны былі галасы крытыкаў, што рабілі паважныя заўвагі аб хваробах мастацтва БССР, а чым болей адыходзілі сьвяточныя настроі, тым гучней рабіліся галасы крытыкі. Сьнежань 1957 году і студзень 1958 г. у гэтым сэньсе зьяўляюцца яскравымі паказьнікамі з чым прыходзіла мастацтва БССР у гэтак званае «пятае дзесяцігодзьдзе». Тут ужо падаваліся вельмі вострыя і, навет, сьмелыя выказваньні доктара мастацтвазнаўства М. Кацара аб выяўленчым мастацтве, рэжысэра Галуба аб кінамастацтве БССР і некаторыя артыкулы й зацемкі аб іншых жанрах і выглядах мастацкай дзейнасьці. Цяпер лічым карысным дадаць да іх і яшчэ штоколечы, што раскрывае вочы на сутнасьць справы. Гэтак дзьве паважныя савецкія ўстановы — Міністэрства Дзяржаўнае Кантролі й Міністэрства культуры БССР, што правялі адразу-ж пасьля сьвята праверку дзейнасьці тэатру опэры й балету БССР, знайшлі, што, гэтая дзейнасьць на столькі-ж недастатковая й мае столькі-ж заганаў, як і перад юбілейным сьвятам.

Да кастрычніцкіх дзён быў заплянаваны спэктакль адноўленага балету«Князь-возера» Залатарова. Як і ў опэрным беларускім рэпэртуары гэты балет аказаўся вымушана пастаўленым, ізноў-жа з палітычных мэтаў. Гісторыя «Князь-возера» вельмі паказальная дзеля прэпарацыі твораў. Балет «Князь-возера» быў напісаны й пастаўлены ў пасьляваенны час, суправаджаўся вялікай прапагандай і ў 1949 г. яму прысуджана была Сталінская прэмія. Аднак адразу пасьля таго балет «Князь-возера» зьнік із сцэны. І аўтару, і пастаноўшчыкам — ляўрэатам прапанавалі паддць балет паважным зьменам і ўдасканаленьню (звычайная зьява ў СССР). У другой рэдакцыі балет прыняў назоў «Аповесьць аб каханьні», але й гэты выгляд не задаволіў кіраўніцтва. Пачалася праца над новай, трэйцяй рэдакцыяй, якая ўжо выйшла пад назовам «Палымянныя сэрцы». У гэтым выглядзе балет удзельнічаў на дэкадзе БССР у 1955 г. у Маскве й быў адзначаны прыхільнай і даволі высокай ацэнай. Не знаёмага з парадкамі чалавека магло-б зьдзівіць, што пасьля словахвалы «Палымянныя сэрцы» ізноў паступілі ў паважную пераапрацоўку аўтара й тэатру. Калі адляцела дэкадная шуміха, балет аказаўся творам недасканалым і вось, нарэшце, цяпер у юбілейным годзе той-самы балет, прыняўшы свой першапачатковы назоў — «Князь-возера», у **чацьвертай рэдакцыі** быў паказаны беларускаму гледачу. Мы ня хочам браць пад сумлеў майстэрства дасьветчанага й тэхнічна ўзброенага кампазытара, аднак і ў гэтым варыянце, пэўна з прычынаў падгон яго пад палітычны грэбень, крытыка заўважыла шмат памылковага й недапрацаванага. Рэцэнзія кажа:

> «Празьмерна шчодры балетмайстар у русалчыных сцэнах, якія трохі расьцягнуты. З гэтай прычыны яны павялічваюць дывэртысмэнтнасьць спэктаклю й пэўным чынам, зьмяншаюць яго сюжэтную выразнасьць, кампазыцыйную стройнасьць. Надта балетна выглядае і фінал карціны, у якой Васіль вядзе моладзь на паўстаньне супраць прыгнятальнікаў»[75].

Выходзіць, што у савецкай краіне й балет ня можа выглядаць пабалетнаму, ён мусіць адлюстроўваць абавязкова сацыяльныя канфлікты, клясавае змаганьне, зьнішчэньне ворагаў, гераізм, вядучую прагрэсыўную сілу (лінія партыі) і г. д. Трэба думаць, што й гэты апошні варыянт балету із слабым паказам марксісцка-ленінскай тэорыі ды вылучэньнем на першы плян балетнасьці, як спэцыфікі не задаволіць кіраўніцтва.

Аб музычным мастацтве БССР наагул выказалася йзноў-жа й перадавіца «Літаратуры і мастацтва», якая пад цікавым загалоўкам «Да новых творчых посьпехаў», адкрыла (каторы раз?) трывожнае становішча з опэрай і балетамі, дзе, навет, «няма надзеі» на выпраўленьне.[58]

У сьнежані зьяўляецца артыкул кінарэжысэра Голуба пад назовам «Аб тым, што турбуе», дзе ізноў-жа сьвярджаецца дрэннае палажэньне кінастудыі «Беларусьфільм».

Паказальная зацемка зьяўляецца ў канцы сьнежня ў газэце «Зьвязда», якая робіць вымову й закіды крытыку Есакову за тое, што апошні публічна (у газэце «Менская Праўда») паддаў войстрай і жорсткай крытыцы прэм'яваную п'есу Губарэвіча «Галоўная стаўка», якая так ці йнакш высьвятляла махінацыі конкурсных камісіяў і журы[59].

У студзені «Літаратура і мастацтва» дае перадавіцу, дзе расказвае аб недаравальным становішчы й дачыненьнях да маладых творчых кадраў, асабліва беларускіх — нацыянальных.[60]

Вельмі яскравым фактам зьяўляецца паведамленьне Камітэту прысуджаньня Ленінскіх прэміяў у студзені 1958 г. Камітэт апублікаваў кандыдатуры твораў і аўтараў, якія былі выстаўлены арганізацыямі на атрыманьне вышэйшых у СССР прэміяў. З прыведзенага сьпісу бачна, што ні ў драматургіі, ні ў тэатральным, ні музычным ці выяўленчым мастацтвах БССР не аказалася нічога й нікога, што было-б высунута як зьявішча агульна прызнае.

Лічым, што пададзеных тут фактаў дастаткова, каб скласьці сабе апінію аб істотным і праўдзівым стане «новага ўздыму» мастацтва БССР, і аб ўсіх тых сьцьверджаньнях цэнтральнага й рэспубліканскага друку, які мае такія загагоўкі, як «За ўздым мастацтва», «Росквіт беларускага тэатру», «Да новых перамог», «Да новых творчых посьпехаў» і г. д.[61]. Перад намі на справе глыбокі крызіс усяго мастацтва БССР, паважная й цяжкая хвароба, ад якой савецкая сыстэма ня мае лекаў і ратунку. Да такога становішча давяла мастацтва БССР бальшавіцкая «нацыянальная палітыка», яна зруйнавала й загубіла самае галоўнае — **нацыянальную прыроду, традыцыі, кірунак, стыль і сваеасаблівасьці беларускага мастацтва, забіла дух творчасьці й натхненьне мастака.** Дасьледваць гэтае найбольш істотнае пытаньне — ужо асобнае заданьне й асобная тэма. Тут цікава толькі зацеміць, што апошнімі часамі навет у савецкай беларускай крытыцы мацней і мацней гучаць галасы ў вабарону нацыянальнага беларускага мастацтва, галасы, якія пераконваюць, што савецкая палітыка й зьяўляецца асноўнай прычынай крызісу.

---

44 Тамсама.
45 Тамсама, 28. 9. 1957.
46 Тамсама, 2. 11. 1957.
47 Тамсама, 20. 4. 1957.
48 «Літаратура і мастацтва», 15. 6. 1957.
49 «Зьвязда», 31. 10. 1951.
50 «Літаратура і мастацтва», 2. 11. 1957.
51 Тамсама, 10. 4. 1957.
52 Тамсама
53 Тамсама, 2. 11. 1957.
54 Тамсама, 18. 9. 1957.
55 Тамсама.
56 Тамсама, 31. 7. 1951.
57 Тамсама, 1. 1. 1958.
58 Тамсама, 11. 12. 1957.
59 «Зьвязда», 28. 12. 1957.
60 «Літаратура і мастацтва», 29. 1. 1958.
61 Перадавіцы «Літаратуры і мастацтва» зь 10. 4., 16. 10., 23. 10., 30. 11., 11. 12. — 1957 г.

**Канец**

